# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Прафэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі Дом Працы
Тэлефон: Старшыні ЦП № 4-08. Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня інфармацыя, адказы на запытаньні.)

№ 5 (23) | 1-га КРАСАВІКА 1929 году | № 5 (23)

## З Ь М Е С Т.



## Прэзыдыум ЦП саюзу Сельгаслесрабочых аб працы вытворчых нарад спэцыялістых у сувязі з вясеньняй пасеўнай кампаніяй і падвышэньнем ураджайнасьці, на пасяджэньні сваім ад 13/III-29 г. па дакладу т. Бушко выняс наступную пастанову:

1) Пастаўленыя партыяй і ўрадам задачы аб падвышэньні ўраджайнасьці ў савгасах на 17%, у калгасах на 12%, у сялянскіх гаспадарках на 7% і пашырэньне пасеўнай плошчы ў савгасах на 6%, у калгасах на 10% і сялянскіх гаспадарках на 3%, могуць быць выкананы толькі тады, калі ў гэту справу будуць уцягнуты ўсе працоўныя масы і спэцыялістыя сельскай і лясной гаспадаркі праз вытворчыя нарады і непасрэдны ўдзел у вясеньняй пасеўнай кампаніі.

2) Практыка работы мінулага паказала, што ўдзел спэцыялістых у вытворчых нарадах яшчэ зусім слабы, што вытворчыя нарады яшчэ мала разгорнуты, часта носяць выпадковы характар і ня маюць канкрэтных прапаноў і што не заўсёды яны ставяцца перад гаспадарчымі органамі для скарыстаньня ў працы.

У далейшым Прэзыдыум ЦП саюзу прапануе:

1) Паставіць для абгаварэньня на вытворчых нарадах на бліжэйшы час наступныя пытаньні:

а) Пашырэньне пасеўнай плошчы зернавымі, тэхнічнымі і кармавымі культурамі.

б) Падняцьце ўраджайнасьці шляхам дапасаваньня простых агрыкультурных мерапрыемств, як ачысткі насеньня, зьнішчэньня межнікаў і кустазельля, пасеў гатунковым насеньнем, барацьба са шкоднікамі сельскай гаспадаркі, пашырэньне палепшаньня спосабаў апрацоўкі глебы, занятыя і раньнія папары, зяблявая вырабка, шырокае выкарыстаньне штучных угнаеньняў: вапны, попелу, торпу, лубіну на зялёнае ўгнаеньне, больш поўнае скарыстоўваньне палепшанага сельска-гаспадарчага інвэнтару, які маецца ўжо на пракатпунктах, у савгасах, калгасах, машынных таварыствах і асобных сельскіх гаспадарках, а таксама расчыстка сенажацяў і зрэзка куп'я.

в) Калектывізацыя і вытворчае каапэраваньне вёскі і палепшаньне агравытворчай базы савгасаў і калгасаў.

г) Контрактацыя пасеваў, як мера прыемства матар'яльнай дапамогі сялянству для пашырэньня пасеўнай плошчы, колькасьці і якасьці с/г. вытворчасьці, як спосаб арганізаванага збыту сялянствам дзяржаве с.-г. прадукцыі вытворчага каапэраваньня і калектывізацыі вёскі.

2) Для выкананьня пастаўленых задач у сувязі з пасеўнай кампаніяй правесьці да пачатку сяўбы вытворчыя нарады ў:

а) Менску і акруговых гарадох агульныя нарады спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі: аграномаў, земляўпарадкавацеляў, мэліаратараў і лесаводаў пад кіраўніцтвам ЦП і Акраддзяленьняў саюзу.

б) У раёнах—нарады спэцыялістых, працуючых у раёнах (аграномаў, кіраўнікоў савгасаў, лесаводаў, каморнікаў і мэліаратараў) з удзелам партыйных, савецкіх і грамадзкіх працоўнікоў раёну пад кіраўніцтвам упаўнаважаных саюзу.

в) У савгасах і лясьніцтвах--вытворчыя нарады рабочых і лясной варты пры актыўным удзеле спэцыялістых, пад кіраўніцтвам рабачкомаў.

г) У сельсаветах—вытворчыя нарады з удзелам сельрабачкомаў, спэцыялістых сельскай і лясной гаспадаркі, працуючых на тэрыторыі с/с, членаў с/с., прадстаўнікоў с.-г. каапэрацыяй, калгасаў, савгасаў, камітэтаў узаемадапамогі, ячэек ЛКСМ, жанаддзелу, настаўнікаў, с.-г. гурткоў, аграўпаўнаважаных вёсак, сялян дасьледчыкаў, селькораў і сялян, зацікаўленых у культурным вядзеньні сваёй сельскай гаспадаркі.

3) Арганізацыйную частку па скліканьню вытворчых нарад і кіраваньне імі ўраёнах лічыць за раёнымі інструктарамі саюзу, а ў сельсаветах—за сельрабачкомамі, а ініцыятыву і падрыхтоўку пытаньняў для абгаварэньня на вытворчай нарадзе лічыць за спэцыялістымі.

4) Акруговым бюро сэкцый спэцыялістых зараз жа прымацаваць усіх спэцыялістых на час пасеўнай кампаніі да адпаведных раёнаў, сельсаветаў і вёсак і наладзіць сувязь для кіраваньня працай спэцыялістых у правядзеньні вытворчых нарад і вясеньняй пасеўнай кампаніі.

5) Прапановы вытворчых нарад абавязкова ставіць перад гаспадарчымі органамі і сялянствам для ўжываньня ў практычнай працы.

6) Акруговым аддзяленьнем саюзу пры удзеле раёных інструктараў праз рабачкомы савгасаў і лясьніцтв і сельрабачкомы вясьці дакладны вучот вытворчых нарад, сачыць за своечасовым выкананьнем іх прапаноў і зьвесткі аб праведзеных вытворчых нарадах і выніках вясеньняй пасеўнай кампаніі дасылаць у ЦП саюзу.

---

Зацьверджана Прызыдыумам ЦПСаюзу 13.III. 1929 г.

## Пастанова Нарады кіраўнікоў і старшынь Рабочых Камітэтаў савгасаў Менскае Акругі.

Заслухаўшы даклады з месц кіраўнікоў савгасаў і старшынь Рабочых Камітэтаў і даклад Дырэктара Белсельтрэсту аб становішчы і разьвіцьці савгасаў Менскае акругі, Нарада адзначае значныя дасягненьні па ўсіх галінах гаспадаркі, адбіўшыяся ў наступным:

1) у выхадзе трэсьціраваных гаспадарак з паласы ліквідацыі і масавых абрэзак; у сканчэньні земляўпарадкаваньня; у паступовым выхадзе з стратнасьці шэрагу гаспадарак, з адначасовым павялічэньнем грунтоўнага капіталу, як за лік дзяржбюджэтных асыгнаваньняў, так роўна і за лік уласных укладаньняў; у пашырэньні пасяўной плошчы і ў поўным укамплектаваньні (колькаснае) цягавай сілай; некаторым падвышэньні ўзроўню тэхнікі паляводства і пашырэньні агракультурнага абслугоўваньня вёскі; давядзеньня ўкамплектаваньня савгасаў буйнай рагатай жывёлай да 43% ад нормы, даўшы рост за апошнія два гады на 22%, пры адначасовым узросьце ўдойнасьці кароў, дасягнуўшай у 1928 г. да 117 п. (рост супроць 1926 г. 18%). Разам з агульным разьвіцьцём жывёлаводства ў савгасах Менскае акругі арганізавана

племгрупа чырвонае беларускае рагатае жывёлы, якая ўтварыла ўжо вялікі ўплыў на паляпшэньне сялянскае жывёлы.

2) У галіне перапрацоўкі с.-г. сыравіны:

Па малочнае прамысловасьці: аднаўленьне і адбудова за тры гады 8 масласыраробчых заводаў, перапрацоўка малака свайго ўзрасла за два гады на 26% пры аднячасовым пашырэньні сялянскага малака; пабудова і аднаўленьне за тры гады бровароў—9 і крухмален—8, з давядзеньнем перапрацоўкі бульбы ў бягучым годзе да 30.980 тон, з якой уласнай 13.696 тон і сялянскай 17.230 тон; значнае паляпшэньне ўтрыманьня садоў з давядзеньнем плошчы пад пладовымі выхавальнікамі да 31 гэкт. супроць 12 г. у 1929 годзе; выхад савгасаў на замежны рынак па экспарту садавіны, сыру і крухмалу; адноснае паляпшэньне матар'яльнага становішча рабочых савгасаў.

Нараду з гэтымі дасягненьнямі ў разьвіцьці савецкіх гаспадарак Нарада адзначае наступныя недахопы: а) маюцца выпадкі няпоўнага скарыстаньня зямельнае плошчы; б) няпоўны пераход да нармальных севазваротаў; в) амаль што поўная адсутнасьць масавых мэліарацый сенажацяй і палёў; г) нездавальненьне савгасаў лясамі мясцовага значэньня і неўпарадкаванасьць іх; д) недапушчальна слабая ўкамплектаванасьць племяной прадукцыйнай рагатай жывёлай; е) зусім слабае і недастатковае снабжэньне савгаскіх стад канцэнтраванымі кармамі, што прывяло ў асобных выпадках да зьніжэньня ўдояў і наогул слабы тэмп падвышэньня ўдояў; ж) недастатковая барацьба з хваробамі і шкоднікамі па садаўніцтву і гародніцтву з аднячасовым слабым абслугоўваньнем іх; з) нездавальняючы тэмп аднаўленьня с/г. будынкаў; наліччa знасіўшыхся і старых канструкцый с/г. прыладаў і дрэннае іх захаваньне; і) слабы тэмп трактарызацыі і няпоўнае скарыстоўваньне маючыхся; к) нізкая вытворчасьць працы, асабліва падзённых, у выніку слабай арганізацыі працы, адсутнасьць правілаў унутранага распарадку, слабае прымяненьне зьдзельшчыны; л) у значным ліку савгасаў дрэннае кватэрнае становішча пры аднячасовым водпуску сродкаў на гэтую патрэбу і выпадкі нерацыянальнага скарыстоўваньня маючайся жылой плошчы; м) вельмі недастатковае крэдытаваньне савгасаў і няпоўнае выкананьне пастаноў ураду адносна водпуску сродкаў, што прыводзіць часта савгасы да цяжкіх перабояў у працы (запазьненьне будаўніцтва, запазычнасьць па зарплаце і інш); н) выпадкі нядбайных адносін да нарыхтаваньня ад насельніцтва малака для перапрацоўкі, што выклікае недагрузку тэхпрадпрыемств; о) недастатковае скарыстаньне маючыхся магчымасьцяй да пераходу на тарпяны апал; п) слабы тэхнічны нагляд за капітальным будаўніцтвам і несваечасовае нядбайнае складаньне каштарысаў і плянаў на капітальнае будаўніцтва, несваечасовы разгляд і зацьверджаньне плянаў Трэстам; слабасьць грашовай дысцыпліны; выпадкі псаваньня цёплатэхнічных установак ад нядбайных адносін і ад нізкае кваліфікацыі машыністых і качагараў; слабы тэмп адбудовы і аднаўленьня млыноў; выпадкі бесплянавага самастойнага будаўніцтва, што прыводзіць да ўкладу зваротных сродкаў у грунтоўны капітал; яшчэ нізкія ўраджаі ў савгасах; праверка падрыхтоўкі да вясеньняй пасеўкампаніі выяўляе зусім слаба разгорнутыя меры пашырэньня пасеўнай плошчы, уздыму ўраджайнасьці і агравытворчай дапамогі бедняцка-серадняцкаму сялянству па аграмаджэньню і разьвіцьцю вытворчасьці с/г.

Нарада кіраўнікоў і старшынь рабочых камітэтаў прызнае поўную мажлівасьць вырашэньня задач, ускладзеных на савгасы партыяй і ўрадам, быць базамі індустрыялізацыі с/г. вытворчасьці, гатунковага насеньня, племматар'ялу і сапраўдным цэнтрам агравытворчага перарабленьня індывідуальных гаспадарак, уздыму ўраджайнасьці на 70 % за пяцігодку,—

у гэтых мэтах Нарада пастанаўляе:

1. а) Сканцэнтраваць грамадзкую думку вакол правадзімых мерапрыемств па ўздыму ўраджайнасьці і правядзеньня пасеўкампаніі, абгаварыўшы гэтае мерапрыемства на агульных сходах рабочых, вытворчых нарадах, вытворчых канферэнцыях сялянства па ўздыму ўраджайнасьці, уцягнуўшы ў практычную працу ўвесь калектыў рабочых, актыў бядняцка-серадняцкага сялянства і ўсю вясковую

інтэлігенцыю. На чале працы па ўздыму ўраджайнасьці паставіць вытворчыя нарады.

б) Пашырыць пасяўную плошчу за лік асобных угодзьдзяў (незанятых сядзіб, хмызьнякоў, скарачэньня незанятага папару і інш.), як мінімум на 7 % у 1929 г. у сярэднім па акрузе.

в) Разьмеркаваньне пасеўнае плошчы вясьці ў напрамку павялічэньня плошчы пад тэхнічнымі культурамі (бульбы, кармавых караньплодаў) і насеннага лубіну.

г) Павялічэньне ўжываньня штучнага ўгнаеньня, са скарыстаньнем усяго попелу савгасаў і максымальна поўнага збору ў гарадох і мястэчках, не спыняючы гэтае працы і ў далейшым. Пашырыць пасевы лубіну, на ўгнаеньне, і іншых сідэральных культур.

д) Павялічыць скарыстаньне торпу на подсьціл і непасрэдна на ўгнаеньне, палепшыць захоўваньне гною, поўна скарыстаць гноевую жыжу, скарыстаць усе арганічныя адкіды, ствараючы кампосты. Трэсту забясьпечыць гаспадаркі машынамі для драбленьня торпу.

е) Ужыць шэраг агранамічных мерапрыемств (ачыстка ўсяго насеньня на трыеры, абавязковае пратручваньне аўса і ячменю, радавы пасеў, барацьба са шкоднікамі, паляпшэньне апрацоўкі глебы).

ж) Правесьці паляпшэньне натуральных сенажацяў: у два гады ачысьціць ад хмызьнякоў.

2) Ужыць практычныя мерапрыемствы па падвышэньню вытворчасьці працы праз: паляпшэньне арганізацыі працы, перагляд норм выпрацоўкі ў бок павялічэньня, выходзячы з паляпшэньня забясьпечэньня цягавае сілы, мэханізацыю вытворчых працэсаў, катэгарычны перавод на зьдзельную сыстэму ўсяе працы, якая паддаецца нармаваньню.

3). Шырока разгарнуць агравытворчую дапамогу бядняцка серадняцкаму сялянству ў напрамку калектывізацыі, уздыму ўраджайнасьці бядняцка-серадняцкага насельніцтва, у выкананьне дадзеных дырэктыў.

4) Па садаўніцтву, гародніцтву і пчалярству.

**Па садаўніцтву-гародніцтву.**

1)У магчыма кароткі тэрмін ліквідаваць дробныя пладовыя выхавальнікі;

2) распачаць працу па арганізацы, прамысловага гародніцтва ў савгасахі разьмешчаных паблізу гарадоў;

3) ужыць усе магчымасьці да рэалізацыі ўраджаю садоў гаспадарчым спосабам.

5) Па жывёлаводству.

а) Устанавіць рацыянальнае кармленьне і палепшыць утрыманьне жывёлы, больш жостка нарміруючы ўход на падставе апошніх дасягненьняў зоотэхн., для якое мэты імкнуцца да ўкамплектаваньня абслугоўваючага пэрсаналу і жывёлаводаў адпаведна кваліфікаванымі асобамі.

б) Белсельтрэсту і савгасам прыняць меры да нармальнага хутчэйшага снабжэньня жывёлы моцнымі кармамі, пры чым племгрупа абавязкова павінна поўнасьцю атрымліваць патрэбныя для заводзкай працы кормы.

в) У аднае трэці савгасаў і ва ўсіх племгаспадарках адбудаваць у бягучым годзе сілосныя ямы і закласьці сілосы, скарыстоўваючы батву караньплодаў і бульбы, атаву сенажацяў і сеяных траў і інш., а ў племгаспадарках закласьці даследчыя вучасткі (на 2-3 гэкт.) спэцыяльнымі сілоснымі культурамі (кукурузы, сояшнік).

г) Для павялічэньня стад савгасаў застанавіцца на максымальным вырошчваньні маладняка ад уласных кароў, застаўляючы ўсіх здаровых цёлачак і бычкоў (застаўленьне апошніх увязаць з 5-м плянам), ад кароў з удоем не ніжэй 100 п.

д) Увесь амартызацыйны фонд савгасаў па буйнае рагатае жывёле сканцэнтраваць у БСТ і ўтварыць закупку цэнтралізаваным шляхам; савгасы Самахвалавіцкага раёну ўкамплектаваць чырвоным беларускім быдлам.

е) Для абслугоўваньня ваколічнага насельніцтва паставіць у кожным савгасе ня менш 2-х бугаёў —вытворнікаў і аднаго храка, пачынаючы з 1929 г.

ж) З мэтай снабжэньня малочнай жывёлаводнай каапэрацыі калгасаў бычкамі, шырока разгарнуць кантрактацыю.

з) Зьвярнуць увагу на пашырэньне сьвінгадоўлі, арганізаваўшы ў кожным савгасе сьвіны рассаднік у складзе, мінімум, 10 матак і 2 хракоў. (Згодна 5-ці гад. пляну).

і/ Зьвярнуць увагу на пашырэньне і паляпшэньне вэтэрынарна-санітарнага абслугоўваньня савгасаў. Правясьці тубэркулінізацыю ў бягучым годзе ўсіх стад буй-ае рагатае жывёлы ў савгасах.

к/ Абавязкова ўвясьці дасканальны вучот харчаваньня, племяной службы і прадукцыйнасьці жывёлы.

6/ У мэтах павялічэньня таварнай малочнай прадукцыі і зьніжэньня сабекаштоўнасьці, неабходна ўкрупніць сырмаслазаводы шляхам аб"яднаньня савгаспадарак па пераапрацоўцы малака, разьмешчаных у раёне 12-14 кл.

7/ Па трактараскарыстоўваньню.

а/ З гэтага году пачаць практычна арганізацыю трактарных калён у савгасах Доктаравічы, Вязынь Фаніпаль у мэтах максымальнае мэханізацыі працэсаў гаспадаркі і абслугоўваньня сялянства.

б/ Павялічыць нагрузку працы трактароў да 16-ці гадзін у дзень у летні пэрыяд.

в/ Не пазьней як 20/III-29 году скончыць пабудову перасовачных майстэрняў і забясьпечыць іх трактарнымі часткамі, а таксама і савгасы.

г/ Трэба паклапаціцца адпаведным органам і Трэсту аб забясьпечэньні савгасаў часткамі для буйных машын.

8/ Па бульбаапрацовачнае вытворчасьці.

Даручыць Белсельтрэсту распрацаваць праект аб удзеле суседніх савгасаў, прымацаваных да бульбаапрацовачных заводаў у прыбытках тэхнічных мерапрыемств, з мэтай зацікавіць апошнія ў максымальным павялічэньні пасеваў бульбы і здачы гэткае на завод. Лічыць магчымым удельнічаць у прыбытках савгасам, дастаўляючым малако для пераапрацоўкі ў іншыя савгасы.

Стварыць курсы для падвышэньня кваліфікацыі мэханікаў, машыністых і млынароў.

9/ Па капітальнаму будаўніцтву.

а/ Не дапушчаць у далейшым капітальнага будаўніцтва па савгасах без зацьверджаных каштарыстаў і праектаў, без належнага тэхнічнага нагляду з боку Трэсту, з прыцягненьнем да адказнасьці вінаватых у вытвары незацьверджанага будаўніцтва.

б/ Дзеля своечасовага складаньня папярэдніх плянаў, каштарысаў і праектаў на дазволеныя работы, належнага тэхнічнага нагляду і аф рмленьня ўсіх матар"ялаў па будаўніцтву. Трест павінен неадкладна прыняць захады да хутчэйшага ўкамплектаваньня адпаведнага штату па абслугоўваньню грунтоўнага будаўніцтва.

10/ Улічваючы вялікія заданьні, ускладзеныя на савгасы, паставіць пытаньне перад належнымі органамі аб зьмяненьні сыстэмы крэдытаваньня савгасаў у бок пашырэньня бюджэтных асыгнаваньняў, з адначасовым павялічэньнем усяго крэдытаваньня, узмацніўшы больш рацыянальнае скарыстоўваньне сродкаў і кантроль.

11/ Дабіцца павялічэньня крэдытаваньня на жылбудаўніцтва, улічваючы цяжкае кватэрнае становішча савгасаў і клюбаў.

12/ Нарада даручае Белсельтрэсту і ЦП Саюзу ўжыць практычныя меры па большай стабілізацыі кіраўнікоў савгасамі, дабіўшыся ліквідаваньня астаткаў няўв жлівых адносін да практычных прапаноў рабочых з боку кіраўнікоў і стварэньня рабочымі камітэтамі больш спрыяючых умоў для працы кіраўнікоў.

13. Больш зьвярнуць увагі на выкананьне калумовы і своечасовае выплачваньне зарплаты рабочым.

14. Нарада прапануе Белсельтрэсту узмацніць жывую сувазь с саўгасамі праз большае інструктаваньне, інспекцыраваньне савгасаў, асабліва зьвярнуўшы ўвагу на дапамогу выдвіжэнцам.

15. Нарада лічыць, што трэба зусім зьнішчыць трыманьне буйнае жывёлы ў савгасах рабочымі і служачымі.

16. Адзначая зусім ненармальным прымяненьне падзённай сілы на працы, патрабуючай штодзённага сыстэматычнага выкананьня, Нарада даручае ўсім савгасам па пунктам рашучага скарачэньня падзённых устанавіць цьвёрды штат пастаянных рабочых і служачых і сэзоньнікаў.

17. 1/ Нарада выказваецца за большую дэцэнтралізацыю апэрацыйнай дзейнасьці савгасаў згодна пастановы Ураду СССР ад 16/III 1927 г. у межах зацьверджаных плянаў і каштарысаў і даручае ім ў працягу бліжэйшага месяцу на-

ладзць плянавае забясьпечэньне сродкамі, распрацаваўшы сыстэму разрахункаў з савгасамі за збываемыя прадукты ў цэнтралізаваным парадку, практычна ажыцьцявіўшы яе з ліпеня гэтага году.

2/ Нарада таксама адзначае няпоўнае выкананьне пастановы Ураду аб перадачы савгасам тэхнічных прадпрыемств і прыпісных савецкіх гаспадарак (Анопаль) і аздараўленьня грашовага становішча савецкіх гаспадарак — даручае Трэсту і ЦП Саюзу прыняць рашучыя крокі ажыцьцяўленьня гэтай пастановы ў першую чаргу ў частцы перадачы Трэсту прыпісных гаспадарак з адначасовым забясьпечэньнем зваротнымі сродкамі ў разьмерах, неабходных для нармальнай дзейнасьці савгасаў.

18. Старэйшых рабочых і іншых рабочых пераводзіць і здымаць магчыма толькі па ўзгадненьні з кіраўніком.

19. Неабходна адпаведным органам прыняць крокі да своечасовага водпуску лесаматар"ялаў савгасам.

20. Даручыць Трэсту распрацаваць мерапрыемствы па пашырэньню плошчы гаспадарок за кошт розных зямельных фондаў і арганізацыі ў акрузе новых гаспадарак.

21. У мэтах лепшага вэтэрынарнага абслугоўваньня савгасаў, Нарада лічыць патрэбным стварыць кальцавое самастойнае вэтэрынарнае абслугоўваньне савгасаў.

Зацьверджана Прызыдыумам ЦП. 13/III-29 г.

## Пастанова Менскай акругавой вытворчай канферэнцыі савгасаў па пытаньню аб задачах вытворчых камісій і нарад пры савгасах.

1. Заслухаўшы даклад тав. ВАЙТЭНКАВА аб задачах вытворчых нарад і камісій у савгасах, Менская Акруговая Нарада адзначае, што вырашэньне задач, пастаўленых 15-м Усесаюзным і 13-м Усебеларускім Зьездамі Партыі і Пленумамі ЦК УСЕКП(б)Б аб узмацненьні буйнай сельскай гаспадаркі (савгасы, калгасы) патрабуюць максімальнай энергіі і ініцыятывы з боку ўсей рабочай масы і спэцыялістых у савгасах, шляхам шырокага і актыўнага ўдзелу ў рабоце вытворчых нарад і камісій.

2. Грунтоўнымі задачамі ў рабоце вытворчых нарад і камісій на бліжэйшы год павінны быць:

а) Дабіцца падвышэньня ўраджайнасьці ў гэтым годзе на 20%.

б) Павялічэньня прыбытковасьці гаспадарак на 10%.

в) Зьніжэньня сабекаштоўнасьці прадуктаў вытворчасьці на 7%.

г) Арганізаванае і падрыхтованае правядзеньне пасеўных і уборчых кампаній.

д) Пашырэньне пасеўнай плошчы на 6%.

е) Перавод ня менш 7% усей работы на зьдзельшчыну і рацыянальнае скарыстаньне рабочай сілы (барацьба з прагуламі).

ж) Вытворчае выхаваньне рабочых.

з) Падвышэньне кваліфікацыі рабочых.

і) Аб вылучэньні рабочых на адказныя гаспадарчыя пасады.

к) Палепшаньне культурна-бытавых умоў рабочых.

л) Перабудова с/гаспадаркі вакольнага насельніцтва на сацыялістычных пачатках.

м) Арганізаваць у раёне савгасаў ня менш аднаго калектыву.

3. Дзеля поўнага вырашэньня намечаных задач нарада лічыць неабходным усю работу вытворчых нарад праводзіць пад знакам самай шырокай крытыкі і самакрытыкі гаспадарчае і саюзнае работы.

4. Камісіі і рабачкомы забясьпечываюць поўнае выкананьне дырэктыў ЦП саюзу аб правядзеньні пасеўкампаніі ў 1929 годзе (Бюл. ЦП № 2 ад 15/II).

5. Рабоце вытворчых нарад і камісій прыдаць строга плянавы характар, праводзячы іх ня менш аднаго разу ў месяц з уцягненьнем да актыўнага ўдзелу ў іх усіх рабочых, асабліва работніц, спэцыялістых, у напрамку:

а) Своечасовага прадстаўленьня адміністрацыі ў вытворчыя камісій, а дзе іх няма — у рабачкомы, патрэбных

матар“ялаў па чарговаму пытаньню за два-тры тыдні, з такім разьлікам, каб даць магчымасьць п драбязгова азнаёміць і распрацаваць пытаньне.

б) Сваечасов га выдзяленьня таварышоў для падрыхтоўкі і распрацоўкі пытаньняў, даручаючы гэту работу актыўным рабочым пры абавязковай дапамозе ім з боку спэцыялістых адміністрацыі.

в) Вытворчыя камісіі ці актыў у працягу двух-трох тыдняў прапрацоўваюць пытаньні і пасьля прапрацованы матар“ял выносяць на абгаварэньне нарады.

г) Завесьці строгі вучот прапаноў адзельных таварышоў і рашэньняў вытворчых нарад і выкананьня адміністрацыяй, а таксама зьвярнуць увагу на яскравасьць фармуліраваньня прапаноў рабочых у пратаколе, г. з. паказаць, каму даручаецца выканаць і к якому тэрміну.

6. а) Рабачкомам кожныя два месяцы правяраць выкананьніпастаноўвытворчых нарад і аб невыкананых пастановах без усякіх уважлівых прычын абгаварваць на рабачкоме, а таксама паведамляць ЦП саюзу і Белсельтрэсту.

б) Узмацніць вытворча-выхаваўчую працу праз арг нізацыю ў кожным савгасе вытворчых гурткоў, лекцый, гурткі на вытворчыя тэмы.

в) Арганізаваць пасылку на экскурсіі і вытворчыя камандыроўкі лепшых удзельнікаў вытворчых нарад, а таксама шырока практыкаваць прэміраваньне рабочых як за каштоўныя прапановы, а таксама за высокую в ы т в о р ч а с ь ц ь работы.

г) На старонках газэты „Белар. Батрак“ шырока асьвятляць работу вытворчых нарад і камісій (добрыя і адмоўныя бакі) у напрамку палепшаньня іх работы і абмену вопыту сыстэмы і мэтадаў работ.

д) Рашуча праводзіць вылучэньня рабочых на адказныя гаспадарчыя пасады з актыўных удзельнікаў вытворчых нарад і камісій, абгаварваючы вылучаныя кандыдатуры на агульных сходах і рабач. омах і на вытворчых нарадах, і вясьці сталы вучот вылучэнцаў.

е) Насгойна дабівацца выкананьня калумовы адміністрацыяй у напрамку палепшаньня культурна-бытавых умоў, як-та: арганізацыя інтэрнату, грамадзкага харчаваньня, будаўніцтва і рамонт кватэр, спэц опраткі і асабліва выдача зарплаты сваечасова.

7. Даручыць раёным інструктарам саюзу удзеляць больш увагі рабоце вытворчых нарад праз актыўны ўдзел у самай рабоце, а таксама праверка імі выкананьня рабачкомамі дырэктыў аб рабоце вытворчых нарад і іх пастаноў.

8. Нарадзе прасіць ЦП саюзу разам з Белсельтрэстам пасьпяшыць распрацоўку канкрэтных мерапрыемстваў па переводу ўсіх відаў работы, падаючыхся вучоту, на зьдзельную аплату, а таксама ўстаноўку і сыстэму вядзеньня вучоту вытворчай працы і разасл.ць месцам не пазьней 1-га красавіка.

9. ЦП саюзу разам з Белсельтрэстам устанавіць прэміяльны фонд для прэміраваньня паасобных савгасаў, па сістэме сарэўнаваньня і конкурсу ў час правядзеньня асобных кампанійпасеўнай, уборачнай, а таксама за лепшую пастаноўку арганізацыі вытворчасьці працы і выкананьня плянавых заданьняў.

10. Адабраючы рашэньні другога пленума ЦП саюзу аб арганізацыі курсаў па перакваліфікацыі рабочых і кіраўнікоў савгасаў, нарада просіць ЦП саюзу і Белсельтрэст пашырыць колькасьць гэтых курсантаў да с о т н і чалавек і час курсаў з 3 да 6 месяцаў.

---

*УСІМ ПРАФАРГАНІЗАЦЫЯМ САЮЗУ СЕЛЬГАСЛЕСРАБОЧЫХ.*

## Па статчасцы.

У сярэдніх лічбах красавіка месяца па ўсіх саюзных ячэйках будуць разасланы статформы для прадстаўленьня ў ЦП саюзу наступных матар'ялаў:

1) Аб зімовай культпрацы.

а) для сельрабачкомаў, рабачкомаў і мясцкомаў—справаздачы аб культрабоце (статформы №№ 15 і 22) і сьпіскі няпісьменных (статформа № 11), якія сельрабачкомы і рабачкомы па запаў-

неньні, не пазьней 20-га красавіка, пасылаюць у 2-х экз. у Акруговыя Аддзяленьні, а па Менскай акрузе—у ЦП саюзу.

б) Сельупаўнаважаныя і прафупаўнаважаныя—прысылаюць толькі сьпіскі няпісьменных (статформа № 11).

в) Акраддзяленьні саюзу на падставе маючыхся ў іх зьвестак, складаюць сьпісы аб колькасьці органаў культабслугоўваньня па акрузе на 1/IV (статформа № 30), а таксама і сьпісак няпісьменных па першаістых органах саюзу, паступаючых з месц (статформа № 11)—і прысылаюць гэтыя сьпіскі ў ЦП саюзу не пазьней 25-га красавіка, разам з першаістым матар'ялам з месц аб культрабоце (статформы №№ 15 і 20), пры чым паступаючы матар'ял культабсьледваньня абавязкова павінен быць праверанным (прадстаўляецца ў 2-х экз.)

г) Клюбы, школы прафграматы, гурткі фізкультуры і стралковыя гурткі (формы Усе ЦСПС)—запаўняюцца такім жа парадкам і ў тыя самыя тэрміны.

2) Сьпіскі саюзных органаў на 1/II-29 г. (статформа № 31)—запаўняюцца Акруговымі Аддзяленьнямі на падставе картак хуткага вучоту і прадстаўляюцца ў ЦП саюзу не пазьней 20-га красавіка г. г.

3) Карткі складу беспрацоўных членаў саюзу і членаў, не працуючых па найму з-за сканчэньня сэзону на 1/II-29 г. (статформа № 13)—запаўняюцца ўсімі саюзнымі органамі і пасылаюцца не пазьней 20/IV—у Акраддзяленьне, а па Менскай акрузе—у ЦП саюзу. Акраддзяленьні зьбіраюць гэтыя карткі ад усіх ячэяк акругі і, праверыўшы іх, адсылаюць у ЦП саюзу не пазьней 25-га красавіка, пры чым агульная колькасьць беспрацоўных павінна даваць агулы сводкі № 1/а (графы 33-37 і 38-42).

4) Карткі складу саюзных органаў пасьля вясеньніх перавыбараў 1929 г. (статформа № 4), запаўняюцца ўсімі саюзнымі органамі. Паказаньні аб тэрмінах і парадку запаўненьня будуць паведамлены дадаткова.

5) Зьвесткі аб ахопе работаючых калдагаворамі і тарыфнымі згодамі, існуючымі на 1/III-29 г.

а) Сельрабачкомы і мясцкомы складаюць статформу № 7 на заключаныя імі калдагаворы.

б) Акраддзяленьні—складаюць формы № 33 на дагаворы, заключаныя непасрэдна імі, таксама ўключаюць і калдагаворы, заключаныя сельрабачкомамі і мясцкомамі, апрача таго, на калдагаворы, заключаныя на лесазагатоўкі, запаўняюцца дадатковыя карткі.

Увесь матар'ял па калдагаворах—прадстаўляецца ў ЦП саюзу не пазьней 20-га красавіка 1929 г.

Каб мець поўны матар'ял па ўсіх пералічаных галінах—прапануецца ўсім саюзным органам, па атрыманьні блянкаў, зараз жа прыступіць да збору ўсіх неабходных зьвестак з тым, каб увесь матар'ял і па ўсіх саюзных органах быў прадстаўлены ў ЦП саюзу ні ў якім разе не пазьней як 25-га красавіка г. г.

Сэкратар ЦП Саюзу **Шчэмелёва.**

Кіраўнік Спраў **Калядзенка.**

---

*УСІМ ПРАФАРГАНІЗАЦЫЯМ САЮЗУ СЕЛЬГАСЛЕСРАБОЧЫХ.*

## Аб членах саюзу, пазбаўленых выбарчых правоў.

ЦП саюзу Сельгаслесрабочых паведамляе, што на падставе тлумачэньня УсеЦСПС ад 14/III-29 г. (газэта „Труд" № 63 ад 17/III-29 г.) і ЦСПСБ (абежнік № 509/00/18 ад 25/III):

1) Члены саюзу, пазбаўленыя выбарчага права, захоўваюць саюзнае членства на працягу аднаго году з моманту пазбаўленьня іх правоў, калі яны ўзьнялі хадатайніцтва аб аднаўленьні іх у выбарчых правах.

2) Пазбаўленыя правоў члены саюзаў, калі. яны ўзьнялі хадатайніцтва аб аднаўленьні ў правах, карыстаюцца ў саюзных органах (да вырашэньня іх пытаньня аб выбарчых правах) правам удзельнічаньня ў перавыбарах прафорганаў без права быць абранамі ў саюзныя органы.

3) Калі членам саюзаў, пазбаўленым правоў у астатняй інстанцыі (ЦВК БССР) будзе адмоўлена ў аднаўленьні ў правах

да сканчэньня гадавога тэрміну, яны павінны быць выключаны з саюзу заразжа да сканчэньня гадавага тэрміну.

4) Члены саюзу, пазбаўленыя правоў да свайго ўступленьня ў саюз і скрыўшыя факт пазбаўленьня ў правох ад апошняга, павінны быць зараз жа выключаны з саюзу, калі яны да гэтага часу не аднавіліся ў выбарчых правох.

Адначасова з гэтым ЦП саюзу зварочвае В/увагу на неабходнасьць больш уважлівых адносін да прыёму ў члены саюзу ў далейшым, ні ў якім разе не дапушчаючы ў сваёй практыцы фармальных адносін да пытаньняў членства з тым, каб зьнішчыць выпадкі прыёму ў рады саюзаў асоб, якія ня могуць згодна канстытуцыі карыстацца правам выбараў, а адсюль, і правам быць членам саюзу.

Сэкратарь ЦП Саюзу **Шчэмелёва**.

Заг. Арг. Аддзелам ЦП **Аскерка**.

## Аб прысылцы нізавымі праforганамі фінсправаздач.

Чатыры разы ў год рабачкомы, сельрабачкомы, мясцкомы, камслужы і прафупаўнаважаныя павінны прадстаўляць у вышэйстаячы саюзны орган грашовую справаздачу. Да 1-га студзеня 1920 г. гэтыя справаздачы прысылаліся ў райкомы саюзу. У сувязі з ліквідацыяй райкомаў, усе нізавыя праforганы павінны прысылаць фінсправаздачу ў 1929 г. у свае акруговыя аддзяленьні, а нізавыя праforганы Менскай акругі—у ЦП саюзу.

Тэрмін прысылкі грашовай справаздачы за першы квартал г. г., згодна ўказаньня на блянку гэтай справаздачы (форма № 17), вызначаны 5-га красавіка.

ЦП саюзу зварочваецца да ўсіх нізавых органаў саюзу з прапановай—даць грашовую справаздачу сваечасова, каб ня прыходзілася траціць лішніх грошай на напамінкі па гэтай часцы, і каб магчыма было падагуліць грашовую дзейнасьць нізавых органаў саюзу за першы квартал 1929 году.

### Аб фонду беспрацоўных,

У сувязі з ліквідацыяй райкомаў саюзу, парадак скарыстаньня фонду беспрацоўных устанаўліваецца наступны:

1) Усе рабачкомы, сельрабачкомы і местачковыя рабачкомы складаюць каштарыс па выпрацаванай форме ЦП на тэрмін з 1-га красавіка па 1-га ліпеня г. г.

2) Каштарысы, пасьля абгаварэньня ў рабачкоме, перасылаюцца ў Акруговае Аддзяленьне, а нізавы орган Менскай акругі—у ЦП саюзу не пазьней 10-га красавіка на зацьверджаньне.

3) Акруговыя Праўленьні і ЦП разглядаюць і зацьверджаюць гэты каштарыс у 2-х дзённы тэрмін і 13-га красавіка высылаюць іх назад у рабачкомы.

4) Фонд дапамогі беспрацоўным, як правіла, дэцэнтралізаваны і знаходзіцца на мясцох.

5) Акруговыя Аддзяленьні, пры зацьверджаньні каштарысаў, пасьля здавальненьня мясцовых патрэб, забіраюць астаткі фонду беспрацоўных.

6) З сродкаў фонду беспрацоўных па атрымоўваючым астаткам выдаецца датацыя тым рабачкомам і гарадзкім мясцкомам, якім сваіх сродкаў не хапае для здавальненьня патрабуемай дапамогі беспрацоўным.

На другое паўгодзьдзе г. г. складаюць каштарысы па фонду беспрацоўных усе нізавыя органы на ўсё паўгодзьдзе, г. зн. з 1-га ліпеня па 1-га студзеня 30 г.

Старшыня ЦП **Вайтэнкаў**.

Сэкратар **Шчэмелёва**.

## Акраддзяленьням Саюзу Сельгаслесрабочых.

Камуністычная партыя і вышэйшыя саюзныя органы ў сваіх дырэктывах паказваюць на неабходнасьць узмацненьня клясавага выхаваньня, узняцьця клясавай сьвядомасьці сэзонных рабочых і арганізацыі іх супроць кулака, асабліва зараз, у сувязі з абвастраючайся клясавай барацьбой у вёсцы. Наш саюз аб'яднае ў сваіх шэрагах і ахаплівае працоўнымі дагаварамі дзясяткі тысяч сэзонных ра-

бочых,—рабочых і работніц на торфраспрацоўках, рабочых на сплаве і г. д.

Хутка пачынаецца сплаў, які мае вялікае гаспадарчае значэньне і саюз павінен зараз галоўную ўвагу зьвярнуць на культмассавае абслугоўваньне сплаўшчыкаў.

Газэта „Беларускі Батрак“ зьяўляецца адным з лепшых памоцнікаў саюзу ў яго рабоце па клясавым выхаваньні сельгаслесрабочых, па лепшай абароне іх матар'яльна-бытавых патрэб. Таму ЦП саюзу сельгаслесрабочых прапануе:

ПЕРШАЕ—У сувязі з адсутнасьцю сталага адрэса жыхарства сплаўшчыкаў на час іх працы на сплаве тэрмінова выпісаць на ўвесь час сплаў на кожны пункт прыпынку сплаўшчыкаў дастатковую колькасьць газэты „Беларускі Батрак“ (прыкладна—адзін экземпляр на 3—5 сплаўшчыкаў) за сродкі культфонду. Грошы зараз жа паслаць у рэдакцыю газэты.

ДРУГОЕ—Адначасова з выпіскай газэты за кошт рабачкому павесьці растлумачальную работу сярод сплаўшчыкаў, дабіваючыся каб сплаўшчыкі выпісалі газэту „Беларускі Батрак“ на год на свой хатні адрэс, каб пасьля сканчэньня сплаву яны праз „Беларускі Батрак“, у час пераходу на іншую працу ці беспрацоўя, былі заўсёды зьвязаны з саюзам.

ТРЭЦЬЦЯЕ—Падпіску на „Беларускі Батрак“ павінны арганізаваць рабачкомы ці вылучаныя ім зборшчыкі, па падпісных лістох, якія зараз жа будуць разсылацца. Калі пасланай колькасьці лістоў ня хопіць, трэба тэрмінова паведаміць рэдакцыю.

ЧАЦЬВЕРТАЕ Растлумачваць усім працуючым на сплаве неабходнасьць ня толькі выпіскі „Беларускага Батрака“, але і таго, што кожны сплаўшчык павінен стаць рабкорам „Беларускага Батрака“ і гэтым даць магчымасьць газэце добра асьвятляць умовы працы і быту, патрэбы і г. д. сплаўшчыкаў, гаспадарчае вядзеньне лесараспрацовак і інш.

Дапамога арганізацыі рабкораўскіх гурткоў і асобных рабкораў газэты—адна з задач масавай культработы на сплаве. На кожным плыту, на кожнай грабенке, на кожнам караване павінны быць рабкоры „Беларускага Батрака“.

Усім акраддзяленьням і райінструктарам наглядаць за выкананьнем прапаноў гэтага лісту і дапамагчы сплаўным рабачкомам у іх рабоце па разгортваньні падпіскі на „Беларускі Батрак“ і арганізацыі рабкораў.

Старшыня ЦП Саюзу
Сельгаслесрабочых **Вайтэнкаў**

Нам. Загадчыка Культаддзелам
ЦП Саюзу **Маслова**

◆◆◆◆◆◆◆

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар **Вайтэнкаў.**
Намесьнікі яго: **Аскерка, Юшкевіч**

Галоўлітбел № 1295. Тыраж 1200 экз.

Друкарня Менспраўдому.